# ЗАРА над ДРУЦЦЮ

Орган Бялыніцкага раённага Савета дэпутатаў і райвыканкама

СЕРАДА 3 МАЯ
№ 34 (8545)
2000 года
Цана 25 руб.

Выдаецца з 1931 года


## УРАДЖАЙ-2000

## ДОШКА ГОНАРУ

### ПЕРАДАВІКОЎ НА ВЕСНАВЫХ ПАЛЯВЫХ РАБОТАХ ПА СТАНУ НА 2 МАЯ

**КАЗАКОЎ Іван Уладзіміравіч,** механізатар калгаса ,,Радзіма". Трактарам МТЗ-82 у агрэгаце з сеялкай СПУ-6 пасеяў 266 гектараў яравых зерневых, у тым ліку 1 мая – 30 гектараў пры норме 15.

**КАЗАКОЎ Аляксандр Уладзіміравіч,** механізатар калгаса ,,Радзіма". За 11 дзён трактарам МТЗ-82 з раскідвальнікам РМГ-4 унёс мінеральныя тукі на 814 гектарах, у тым ліку 30 красавіка на 70 гектарах пры норме – 30.

**МАРГУНОЎ Аляксандр Іванавіч,** механізатар саўгаса ,,Каліноўскі". На трактары МТЗ-82 з культыватарам КПС-4 за дзень prакультываваў 37 гектараў глебы пры норме 18.



**ЗЕМЛЯРОБЫ калгаса ,,Камінтэрн", як і планавалі, поўнасцю завяршылі сяўбу яравых культур да 1 мая. Насенне пакладзена ў добра падрыхтаваную, запраўленую тукамі і арганікай глебу, што дазваляе разлічваць на важкі ўраджай восенню.**

**Старраннасцю на пасяўной вызначаліся літаральна ўсе механізатары і паляводы. Выдатна, у прыватнасці, працавалі на палетках трактарысты Аляксандр Васільевіч Арцёмаў (на здымку ўверсе) і Уладзімір Іванавіч Марозаў. На сваіх МТЗ-82 яны спачатку былі задзейнічаны на раскідванні мінеральных угнаенняў, а затым пераключыліся на сяўбу зерневых. Вытворчыя заданні пастаянна перавыконвалі, забяспечваючы пры гэтым добрую якасць работы.**

**Наперадзе ў маладых механізатараў шмат адказнай работы на веснавым палетку па догляду пасеваў. І можна з упэўненасцю сказаць, што і там яны не падвядуць.**

**Фота Васіля РАДОЎСКАГА.**



## ЯК СВЯТА ДУШЫ, ЯК НАДЗЕЯ...

У свят, як і ў прыроды, ёсць, відаць, свае перыяды затухання і вяртання да жыцця. І хоць сённяшнія цяжкасці прыносяць нямала нярадасных фарбаў на старонкі жыцця, разам з веснавым абуджэннем вярнуўся да нас і Першамай — свята Вясны, Працы і Міру.

У Ліпавым гаі было шматлюдна. Сюды сабраліся бялынічане. З прывітальнай прамовай да іх звярнуўся старшыня райкама прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу А. Д. Халадцоў. Анатоль Дзмітрыевіч сардэчна павіншаваў удзельнікаў мітынгу са святам вясны і працы, пажадаў ім моцнага здароўя, вялікага асабістага шчасця, новых творчых поспехаў у выкананні праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця.

А завяршылася свята масавым народным гуляннем. Цікавай канцэртнай праграмай парадавалі прысутных удзельнікі мастацкай самадзейнасці, праводзіліся спартыўныя спаборніцтвы.

Першамай паказаў, што ён патрэбен людзям як свята душы, як надзея, што, з'яднаўшыся, можна адолець цяжкасці. А гэта — галоўнае.

**(Наш кар.)**

● *ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ*

## ЗЛАЧЫННАСЦЬ ЗНІЖАЕЦЦА,
### *але супакойвацца яшчэ рана*

*Амаль за чатыры месяцы бягучага года ў раёне зарэгістравана 147 злачынстваў, што на 25 менш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. За першы квартал у раённым судзе разгледжана 47 крымінальных спраў, асуджана да пазбаўлення волі 19 чалавек.*

*Хто ж становіцца на ўхабістую дарогу жыцця? Палавіна ўсіх злачынстваў прыпадае на долю раней асуджаных і нідзе не працуючых людзей.*

*Да пазітыўных тэндэнцый можна аднесці павелічэнне раскрытых злачынстваў (87 %), зніжэнне колькасці асобных відаў цяжкіх злачынстваў, крадзяжоў з магазінаў (летась 18, а сёлета — 2).*

*Радуе і тое, што ўзровень злачыннасці ў правапарушэннях сярод непаўналетніх змяншаецца (летась 8, а сёлета 3 выпадкі).*

*Хоць крымінальнага ўзрыву не назіраецца, але спраў у работнікаў праваахоўных органаў хоць адбаўляй. Бяспека насельніцтва па-ранейшаму застаецца галоўнай задачай. Аб усім гэтым гаварылі на прэс-канферэнцыі з мясцовымі журналістамі райпракурор раёна С. М. Парфёнаў і начальнік аддзела ўнутраных спраў райвыканкама палкоўнік У. Б. Залуцкі.*

*Кіраўнікі праваахоўных органаў раёна адказалі на шматлікія пытанні супрацоўнікаў газеты "Зара над Друццю".*

**(Наш кар.)**

## ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!
### Раённы выканаўчы камітэт і раённы Савет дэпутатаў

віншуюць журналістаў раённай газеты, работнікаў і ветэранаў друкарскага цэха, усіх чытачоў райгазеты з прафесіянальным святам — Днём друку.

Сённяшняе жыццё кожнага з нас немагчыма ўявіць без газет і часопісаў, без нашай "раёнкі". Яны трывала ўвайшлі ў наша жыццё, з імі мы згаджаемся ці спрачаемся, чакаем іх і любім. Газета не ўяўляецца без пастаяннага кола верных чытачоў, і мы жадаем калектыву раённай газеты новых творчых поспехаў, імкніцеся жыць клопатамі тых, для каго пішыце, знаёмце нас з самымі актуальнымі, самымі свежымі навінамі і падзеямі.

Прыміце самыя цёплыя пажаданні поспехаў у працы, моцнага здароўя і дабрабыту. Шчасця і радасці вам, вашым родным і блізкім!

## ПАДЗЕІ І ФАКТЫ

### КРЫХУ "ПАТАЎСЦЕЛІ" КАМУНАЛЬНЫЯ ТАРЫФЫ

***У маі жыхары будуць плаціць за кватэру больш. У адпаведнасці з пастановай Міністэрства эканомікі ад 20 красавіка праіндэксаваны шэраг камунальных тарыфаў.***

*Стаўка кватэрнай платы цяпер складае 3,74 рубля за квадратны метр агульнай плошчы. Тарыфы на халоднае і гарачае водазабеспячэнне, каналізацыю і ацяпленне павышаны на 11,7 працэнта. Такі індэкс змянення цэн на прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння склаўся за сакавік. Адпаведна "падцягнулі" і камунальныя тарыфы. Дарэчы, падобны парадак быў зацверджаны ўрадавай пастановай яшчэ ў 1995 годзе.*

### ПЕНСІЯНЕРЫ АТРЫМАЮЦЬ ПРЫБАЎКІ Ў МАІ

***У сувязі з ростам зарплаты рабочых і служачых, а таксама змянення бюджэту пражытачнага мінімуму ў маі адбудзецца чарговы пераразлік працоўных пенсій — такую інфармацыю паведамілі ў Міністэрстве сацыяльнай абароны.***

*У прыватнасці, чакаецца, што мінімальная пенсія ўзрасце на 18,9, сярэдняя — на 16, а максімальная — на 10,7 працэнта. Такім чынам, у наступным месяцы "сярэднестатыстычны" беларускі пенсіянер павінен атрымаць каля 23.300 "новых" рублёў.*

### ІНДЭКС СПАЖЫВЕЦКІХ ЦЭН У САКАВІКУ 2000 ГОДА СКЛАЎ 311,7 ПРАЦЭНТА

***Індэкс спажывецкіх цэн у сакавіку 2000 года ў параўнанні з мінулагоднім першым месяцам вясны склаў 311,7 працэнта, у параўнанні са снежнем 1999 года — 131,9 працэнта.***

***Такую інфармацыю паведамілі ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу.***

*Больш за ўсё падаражэлі харчовыя тавары і разнастайныя паслугі, адзначаюць спецыялісты ведамства. Тут у сакавіку 2000 года індэкс спажывецкіх цэн склаў адпаведна 131,6 і 139,7 працэнта. Гэты эканамічны паказчык у групе прамысловых тавараў у першы веснавы месяц гэтага года дасягнуў у параўнанні з узроўнем сакавіка 1999 года 129,6 працэнта.*

### НА ХАРЧАВАННЕ — 20 ТЫСЯЧ. ПРЫНАМСІ, У СЯРЭДНІМ ПА КРАІНЕ

***Кошт набору з 25 асноўных прадуктаў харчавання па нормах мінімальнага спажывецкага бюджэту (ці, кажучы інакш, "харчовага кошыка") з 20 сакавіка па 20 красавіка павялічыўся ў цэлым па краіне на 5,5 працэнта і склаў 20.292 рублі — такім аказаўся вынік даследавання росту цэн, якое правяла Федэрацыя прафсаюзаў.***

*Паводле даследавання ФПБ, найбольш хуткімі тэмпамі цэны на асноўныя прадукты харчавання на працягу апошняга месяца выраслі ў Віцебску (9,1 працэнта), а найменшы паказчык іх росту быў адзначаны ў Магілёве (3,6 працэнта). Самым дарагім горадам краіны па-ранейшаму можна лічыць Мінск, дзе па стану на 20 красавіка кошт "харчовага кошыка" дасягнуў 23.631 рубля. Для параўнання: у Гродне ён ацэньваўся ў 20.600, у Гомелі — 20.256 рубля, Віцебску — 19.926, Магілёве — 19.081 і ў Брэсце — у 18.181 "новы" рубель.*

● ПРАБЛЕМА ВАЧАМІ ЖУРНАЛІСТА

# У МАГАЗІН – НА „ЭКСКУРСІЮ"?

Нядаўна мне давялося пабываць у Запольскім гандлёвым цэнтры. Завітала спачатку ў магазін харчовых тавараў. Магчыма, калі раней тут і былі праблемы, звязаныя з недастатковым забеспячэннем прадуктамі харчавання, то цяпер такое пытанне не паўстае. Выбар у магазіне даволі разнастайны. Ёсць усё самае неабходнае: хлеб, макаронныя вырабы, крупы, кансервы, свежамарожаная рыба, каўбаса, садавіна, а таксама цукар і масла, вакол якіх доўгі час былі такі вялікі ажыятаж.

— Устаноўлены асартымент тавараў мы вытрымліваем, — гавораць загадчыца магазіна Ніна Іванаўна Амялькова. — Хацелася б, канешне, каб быў больш разнастайным выбар круп — адсутнічае ў продажы, напрыклад, ячная крупа, проса. Каб хлебабулачныя вырабы паступалі лепшай якасці. Аднак галоўная праблема для нас заключаецца зусім у іншым. Вось ужо некалькі месяцаў запар не можам выканаць даведзены план з-за таго, што ў людзей няма грошай. Нашы асноўныя пакупнікі — працаўнікі саўгаса, а яны, самі ведаеце, атрымліваюць зарплату з вялікім спазненнем.

Высветлілася, што нават калі і наведваюцца сюды пакупнікі, то ў асноўным за хлебам, гарэлкай ды цыгарэтамі.

— З вялікім задавальненнем купіла б я і макаронаў, і круп, і каўбасі, ды няма за што, — уступае ў гутарку пенсіянерка з Дабрыявічаў, якая прыйшла ў магазін толькі дзеля таго, каб атрымаць за здадзеныя ў саўгас 140 літраў малака 28 кілаграмаў камбікорму.

— І надоўга вам яго хопіць? — пытаюся.

— Мо на тыдзень, бо гаспадарку вялікую трымаем. Мой муж таксама пенсіянер. Атрымліваем з ім па 15 тысяч рублёў у месяц. Каб толькі ўдвух былі, тых грошай хапіла б. А так, апрача нас, у сям'і яшчэ пяць чалавек. Прыходзіцца дапамагаць дачцэ з зяцем, хоць яны і жывуць асобна. Абодва працуюць у мясцовым саўгасе і ўжо некалькі месяцаў без зарплаты сядзяць. Калі-небудзь капейчыну ўнучкам даць трэба, бо вучацца ў горадзе, студэнткі. А тут яшчэ малодшы сын з Магілёва пераехаў, пакуль што нікуды на працу не ўладкаваўся...

Дарэчы, даведалася ад жанчыны, што зрэдку наязджаюць у навакольныя вёскі гарадскія прадпрымальнікі, прывозяць на продаж дэфіцытны камбікорм. Збываюць больш-менш танна, і можна купіць яго, колькі хочаш. Вось толькі каб ён быў яшчэ і якасны! А то адно пілаванне...

Магазін прамысловых тавараў таксама выглядае не бедна. Паліцы запоўнены бялізнай, трыкатажнымі вырабамі, посудам, гаспадарчымі прыладамі. Ёсць даволі шырокі выбар верхняга адзення як для мужчын, так і для жанчын, спецыяльны куток для школьнікаў. Але, зноў-такі, цэны, што называецца, "куслівыя". Што і казаць, калі кавалак гаспадарчага мыла каштуе амаль 230 рублёў, мужчынская сарочка — 3540 — 5930, штаны — 3680 — 5240 рублёў, курткі жаночыя — 7—10 тысяч, мужчынскія — 19500 рублёў. Жадаючым набыць у магазіне абутак таксама давядзецца выкласці "кругленькую" суму — цэны на яго вагаюцца ў межах 10 — 18 мільёнаў рублёў. А вось бытавая тэхніка ў дзень візіту ў магазіне наогул адсутнічала.

Так складваюцца справы ў цэнтры. А што робіцца ў глыбінцы?

Магазін у в. Глыбокі Брод. Апрача прадаўца Т. Р. Бародзіч, у ім больш нікога не было. Дарэчы, за той час, што давялося пабыць у магазіне, туды наведаўся толькі адзін пакупнік — за хлебам. Хоць нельга сказаць, што выбар тут бедны. Меліся ў продажы хлеб, макароны, грэчка, рыс, цукар, масла, свежамарожаная рыба і г. д. Гаспадарчыя і прамысловыя тавары былі прадстаўлены рыдлёўкамі, граблямі, віламі, посудам. Вісела тут некалькі мужчынскіх сарочак, камуфляжная куртка... Але попытам яны не карыстаюцца, бо для большасці пакупнікоў цэны аказваюцца не па кішэні.

— Засталіся ў нашых краях практычна адны пенсіянеры, — гаворыць Таццяна Рыгораўна, — дзеці якіх вучацца ці жывуць у горадзе. І старыя адшукалі выйсце — заказваюць прадукты харчавання і іншыя тавары сваім дзецям. Так танней абыходзіцца...

Нехта мудры калісь сказаў, што чалавек жыве не для таго, каб есці, а есць для таго, каб жыць. Аднак пры сённяшняй рэчаіснасці атрымліваецца, што гэта мудрасць даўно ўстарэла...

**А. НЕКРАШЭВІЧ.**

● ЛЮДЗІ ВЁСКІ

# ГОРДАСЦЬ БАЦЬКІ

**У сям'і Котавых шасцёра сыноў, чацвёра з іх працуюць у калгасе імя Леніна.**

У вёсцы Ізобішча Галоўчынскага сельскага Савета побач з заасфальтаванай дарогай Навасёлкі-Ермалавічы стаіць невялікі драўляны домік. З яго ў розныя гады, нібы галубы, выпырхнулі шасцёра хлопцаў. Цяпер у ім жыве адзін гаспадар Віктар Васільевіч Котаў, які аддаў рабоце ў родным калгасе больш сарака гадоў свайго жыцця. У 60-я гады ён шчыраваў механізатарам, памочнікам камбайнера.

— Я не цураўся ніякай працы, — кажа ён. — Больш пяці гадоў на сталёвым кані араў, сеяў, даглядаў і ўбіраў вырашчаны ўраджай. А калі на жывёлагадоўчую ферму спатрэбілася рабочая сіла, то пайшоў даглядаць жывёлу: летам пасвіў дойны статак, а зімою падвозіў кармы. З калектывам фермы не развітваўся аж да 1998 года, хоць і быў ужо на пенсіі.

Віктар Васільевіч ганарыцца за сыноў, кожны з якіх атрымаў сярэднюю адукацыю, набыў па душы любімую прафесію і знайшоў месца ў жыцці. Чацвёра з іх засталіся ў родных мясцінах і папоўнілі калгасную сям'ю. Хлопцы вельмі здатныя да работы, не грэбаюць ёй і працуюць ад душы.

Самы старэйшы сын Уладзімір яшчэ ў юнацкія гады цягнуўся да бацькавага занятку і бачыў сябе толькі механізатарам. Таму адразу пасля заканчэння Навасёлкаўскай васьмігодкі паступіў у прафтэхвучылішча № 217, скончыў яго і ўліўся ў механізатарскую сям'ю. На сваім МТЗ ён выконвае самыя розныя заданні – своечасова і па-гаспадарску. У працоўным калектыве карыстаецца павагай і аўтарытэтам.

Уладзімір Віктаравіч жыве ў вёсцы Навасёлкі. У яго дружная і мілая сэрцу сям'я. Разам з жонкай Таццянай, якая шчыруе апераратарам машыннага даення кароў на мясцовай жывёлагадоўчай ферме, выхоўвае траіх дзяцей.

Бацькавай дарогай пайшоў Леанід. Ён набыў прафесію механізатара і зараз шчыруе на грамадскіх палетках. Праўленне і інжынерная служба гаспадаркі даверылі яму кіраваць энерганасычаным трактарам Т-150. Вясной ён звычайна заняты на ворыве глебы, летам — на нарыхтоўцы грубых кармоў, перавозцы іншых народных грузаў.

У сваёй практычнай рабоце Леанід прытрымліваецца парады бацькі: дапусціш прамашку на рабоце — прынясеш страты гаспадарцы. Таму замацаваны за ім трактар і прычапны інвентар заўсёды на хаду. У гэтыя напружаныя дні Леанід Віктаравіч паўдарнаму працуе на веснавых палявых работах, рыхтуючы глебу пад сяўбу зерневых і зернебабовых культур, бульбы і караняплодаў.

Праўленне калгаса і бацька паклапаціліся аб тым, каб забяспечыць сыноў-механізатараў жыллём. Так, Леаніду гаспадарка купіла ў вёсцы Ізобішча былы будынак сельскай бібліятэкі. Віктар Васільевіч з хлопцамі давёў яго да ладу, дапамог узвесці надворныя пабудовы.

Уладзімір самастойна купіў сабе дом у Навасёлках, а Сяргею падараваў сваю хату дзядуля.

Не пакінуў родныя мясціны і чацвёрты сын Віктара Котава Аляксандр. Сваё прызванне і шчасце ён знайшоў у працы на жывёлагадоўчай ферме вёскі Навасёлкі.

Рады рабочага класа папоўнілі Мікалай і Генадзь, якія працуюць на Магілёўскім заводзе "Строммашына" адпаведна токарам і слесарам-зборшчыкам.

— За работай я і не заўважыў, як прайшло дзяцінства маіх сыноў, як паразляталіся з роднага бацькоўскага гнязда, — цяжка ўздыхнуўшы, прамовіў Віктар Васільевіч. — Усе яны, акрамя Мікалая, маюць свае сем'і і жывуць няблага. Але мы па-ранейшаму важныя хатнія справы робім разам сямейнай талакой.

...В. В. Котаў амаль тры гады жыве ўдаўцом: заўчасна памерла жонка Ганна Сцяпанаўна, якая ўсё сваё жыццё працавала аператарам машыннага даення кароў. Увесь цяжар па догляду ўласнай гаспадаркі ён узяў на свае плечы. На падворку трымае карову, свіней, іншую жыўнасць, апрацоўвае 65 сотак прысядзібнага ўчастка. Словам, клопату Віктару Васільевічу хапае і зімой, і летам — з раніцы да позняга вечара заняты справамі.

**В. СУХАРАЎ.**

ЛЕПШЫЯ ПА ПРАФЕСІІ

**На злёце перадавікоў народнай гаспадаркі раёна прысутнічаў і дарожны рабочы дарожнага рамонтна-будаўнічага ўпраўлення № 170 Андрэй Іванавіч Марозаў. І не толькі прысутнічаў, а за сваю плённую працу быў прызнаны лепшым па прафесіі.**

**Гэтага маладога работніка заўсёды вызначалі добрае веданне сваёй справы, стараннасць, імкненне ў любы час прыйсці на дапамогу таварышу.**



**НА ЗДЫМКУ: А.І. Марозаў.**
**Фота В. РАДОЎСКАГА.**

● НАРОДНЫЕ ПРИМЕТЫ

## В МАЕ ДОБРЫЕ ЛЮДИ НЕ ЖЕНЯТСЯ

*Май на Руси считается трудным месяцем. Очень неблагоприятен этот месяц для новобрачных. Поэтому в мае никогда не засылали сватов.*

*Предубеждения против женитьбы в мае дошли до нас в пословицах, например, "Рад бы жениться, да май не велит", "Кто в мае женится, тот век будет маяться" и др.*

*Подобное отношение бытовало и по отношению к ребенку, родившемуся в мае. Считалось, что он будет некрепок здоровьем или медленно расти.*

*Очень большое значение в мае придавали и наблюдению за погодой, полагая, что она указывает на будущий урожай.*

*Коли в мае дождь, так будет и рожь.*
*Одна майская роса коням лучше овса.*
*Дождь в мае хлеба подымает.*
*Май холодный — год хлебородный.*
*Май — пора сева.*
*Туманы в мае обещают плодородие, грозы — обилие, град — градобойное лето.*

## ЧЕРНЫЙ КОТ

*Черный кот в народных поверьях напрямую связывался с нечистой силой. Подобно коту, хватающему когтями мышь, сатана ловит людские души.*

*По примете, кошку даже в дорогу не берут: от нее лошади сдохнут. Отсюда распространенное поверье о том, что, если дорогу перебежит черная кошка, удачи в пути не будет. В качестве предохранительной меры советуют повернуться вокруг оси, т. е. как бы заново начать путь.*

*Однако во многих странах, например в Англии, черный кот считается символом удачи. В Древнем Риме черный кот являлется духом — охранителем дома. А в Древнем Египте кошка вообще была священным животным, за убийство которого полагалась смертная казнь.*

● ПАРАДЫ ЎРАЧА

# Лепш паберагчыся загадзя

**Дзве сяброўкі-школьніцы Г. і А., жыхаркі в. Лебядзянка, у адсутнасць бацькоў адной з іх вырашылі наладзіць сумесную вячэру. Адварылі бульбы, адкрылі слоік марынаваных апенькаў... Начаваць засталіся таксама разам, але праз шэсць гадзін пасля "смачнай" вячэры абедзве дзяўчынкі адчулі моцную рэзь у жываце, галаўны боль і галавакружэнне, слабасць, пачаліся ваніты, а крыху пазней яны заўважылі ў дадатак і пагаршэнне зроку.**

„Хуткай дапамогай" дзяўчынкі былі дастаўлены ў інфекцыйнае аддзяленне Бялыніцкай райбальніцы, а адтуль тэрмінова адпраўлены на лячэнне ў Магілёў з дыягназам "батулізм"...

Гэты выпадак адбыўся ў нашым раёне ў мінулым годзе, дарэчы, упершыню за апошнія сем гадоў. Увогуле, па Магілёўскай вобласці за перыяд 1994-1999 гг. зарэгістраваны 64 выпадкі захворванняў на батулізм.

Батулізм з'яўляецца самым цяжкім харчовым атручваннем. Узбуджальнік хваробы шырока распаўсюджаны ў навакольным асяроддзі. Споры яго вельмі ўстойлівыя і вытрымліваюць кіпячэнне на працягу 5 гадзін. З пылам, часцінкамі глебы, выдзяленнямі жывёл споры могуць трапляць на агародніну, грыбы, іншыя прадукты харчавання. Але для ўзнікнення атручвання неабходна размнажэнне ўзбуджальніка хваробы пры пэўных умовах: без доступу паветра і пры тэмпературы 15-37 градусаў вышэй нуля. У такіх умовах пачынае вырабляцца таксін, які адносіцца да ліку самых моцных прыродных ядаў. Пры гэтым знешні выгляд прадуктаў не змяняецца.

Найбольшая колькасць зарэгістраваных выпадкаў батулізму ў нашай вобласці (недзе 60 працэнтаў) звязана з ужываннем нарыхтаваных у хатніх умовах мясных прадуктаў (кумпякоў, каўбас, кансерваваных мясных прадуктаў), 40 працэнтаў — з ужываннем кансерваваных грыбоў, адзінкавыя выпадкі — з ужываннем кансерваваных салатаў з агародніны.

Для таго, каб пазбегнуць захворвання, лепш выкарыстоўваць "адкрытыя" метады нарыхтоўкі. Напрыклад, грыбы і фрукты лепш за ўсё сушыць, агародніну (а таксама грыбы) — саліць або мачыць.

Аднак, паколькі кансерваванне трывала ўвайшло ў наш быт, неабходна памятаць і абавязкова выконваць пэўныя патрабаванні. Грыбы, агародніну і фрукты трэба вельмі добра вымываць ад часцінак глебы, вытрымліваць цеплавую апрацоўку (не менш 30—40 хвілін), дазіроўку солі (10 працэнтаў), воцату (2 працэнты).

Пры вырабе кумпякоў мерамі прафілактыкі батулізму з'яўляецца папярэджванне забруджвання свіных туш часцінкамі зямлі, гною, а ў працэсе іх разбору — змесцівам кішэчніка.

Для папярэджвання прарастання спор і ўтварэння таксіну захаванне мясных і ўсіх кансерваваных прадуктаў варта праводзіць у халодных умовах.

Рэкамендуецца перад ужываннем прадуктаў хатняй кансервацыі рабіць іх паўторную цеплавую апрацоўку, паколькі таксін, у адрозненне ад спор, няўстойлівы і пры кіпячэнні гіне на працягу 15 хвілін.

Памятайце, што пры праяўленні першых сімптомаў захворвання неабходна тэрмінова звярнуцца ў медыцынскую ўстанову, бо існуе толькі адзін спосаб лячэння — увядзенне процібатулізнай сывараткі.

**А. ДАМАРАЦКАЯ,**
**урач-гігіеніст**
**Бялыніцкага РЦГІЭ.**



## РЭПЕРТУАР
**кінатэатра "Зорка"**
**з 1 па 12 мая**

**3.05** "Хэлп мі" ("Хлопец па выкліку"), ЗША, Расія. Фільм аб хлопцу, які за вялікія грошы гатоў спаць з пачварай.

**АЦАНІЦЕ "ТЫТАНІК" ПА-НОВАМУ**! У кінатэатры "Зорка" **4 і 5 мая**, а таксама ў сельскіх дамах культуры легендарны фільм Джэймса Кэмерона (ЗША) **"ТЫТАНІК"**. Гэта сапраўднае мастацтва!

**7.05**. "Грэшнае каханне", Расія. Нават самае чыстае каханне не бывае бязгрэшным.

**8.05**. "Рабі — раз", Расія. Фільм аб дзедаўшчыне ў арміі.

**10.05**. "Любімчык", Расія. Фільм аб тым, як просты хлопец трапляе ў сеці магутнай мафіі.

**11.05**. "Налева ад ліфта", Францыя. Кінакамедыя.

**12.05**. "Насуперак усяму", ЗША. Вострасюжэтны фільм аб каханнні.

*ДАРОЖНЫЯ ЗДАРЭННІ*

## А Б'ЕХАЦЬ „ПЕРАШКОДУ" НЕ ЗДОЛЕЎ

Забраўшы 24 красавіка малако з фермы вёскі Падзевічы, вадзіцель малакавоза М. Шаўцоў узяў накірунак на Запольскую ферму. Але перад уездам у вёску на дарозе нечакана з'явіўся вартаўнік мясцовага саўгаса П. Гуранёў. Прычым ішоў пешаход, хістаючыся ад адной абочыны да другой. Шафёр, імкнучыся аб'ехаць "перашкоду", тым не менш не змог размінуцца з Гуранёвым. У выніку сутыкненне машыны і чалавека аказалася трагічным для апошняга. 47-гадовы Пётр Гуранёў памёр на месцы здарэння.

Трагедыі паспрыялі безадказныя паводзіны пешахода і няўважлівасць вадзіцеля ў час узнікнення аварыйнай сітуацыі.

**Ф. КАЛАСКОЎ,**
**няштатны карэспандэнт "Зары над Друццю".**

● *СПОРТ*

## ПЕРАМОГА З ЯЎНАЙ ПЕРАВАГАЙ

З перамогай вярнуліся з XII спартакіяды школьнікаў гандбалісткі нашага раёна. Разам з імі за галоўны трафей вялі барацьбу каманды Магілёва, Бабруйска, Крычава, Глуска і Мсціслаўля. Праўда, барацьбы як такой, не атрымалася. Нашы дзяўчаты выглядалі на галаву мацней за сваіх саперніц, перамогшы іх з адрывам у 20 і больш мячоў. З найлепшага боку праявілі сябе Марына Смаляк, Оля Скубілава, Юля Зносак (усе СШ № 1), Оля Бабцова (СШ № 2).

Цяпер дзяўчат чакаюць гульні спартакіяды рэспублікі, якая пройдзе ў пачатку мая ў Мінску. Зборная Магілёўшчыны на гэтых спаборніцтвах будзе цалкам укамплектавана выхаванкамі бялыніцкай ДЮСШ 1986 года нараджэння.

**М. ЮШКЕВІЧ,**
**трэнер ДЮСШ па гандболу.**





*ВЯСЁЛЫ АЛОВАК*

● *НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# "Радком па кумпалу"

Чалавеку пры ўсялякіх жыццёвых калізіях уласціва выкрывальна-жыццясцвярджальнае пачуццё гумару. Нават у самыя драматычныя перыяды назіраецца ўсплёск публікацый на старонках друкаваных выданняў твораў гумарыстычнага і сатырычнага зместу. Не выключэнне і наш віраўлівы "перабудовачны" лад жыцця. Менавіта на плыні неспакойных хваляў культурна-асветніцкага адраджэння суверэннай рэспублікі ў беларускую літаратуру ступіў як паэт, гумарыст і сатырык Уладзімір Ермалаеў. Ён — навуковец, кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі спачатку ў ВНУ Магілёва, а цяпер — у Мінску. Нядаўна выдаў трэці па ліку зборнік сваіх гумарыстычных і сатырычных вершаў "Радком па кумпалу".

Аўтарская паэтычная неардынарнасць У. Ермалаева праступае ў кожным яго вершы. Паэт у сілу свайго таленту і жыццёвага вопыту здольны ўкласці ў сціплае чатырохрадкоўе нават вялікую сацыяльна-эканамічную з'яву:

**Мой бацька ў лепшыя часы**
**За дзесяць тысяч меў аўто.**
**А я кавалак каўбасы**
**За столькі ж з'еў —**
**і хоць бы што.**

Або такое сцвярджэнне ў вершы-карацельцы "Перамены часу":

**Здаецца, за жыццё ўсяго**
**пабачылі,**
**Ды навіна гаркотай душу**
**рэжа:**
**Бацькі хоць дома век**
**батрачылі,**
**Сыны ж батрачыць едуць**
**у замежжа.**

Але дыяпазон творчых інтарэсаў У. Ермалаева не абмяжоўваецца асвятленнем толькі сацыяльна-эканамічнай тэматыкі. Аб гэтым сведчыць ёмісты раздзел кнігі, які аўтар назваў "А яшчэ быў выпадак...". Тут надрукаваны неблагія гумарыстычныя вершы "Сітуацыя", "Загадкавая нясушка", "Падатлівая жонка" і нямала іншых. Усе яны, можна сказаць, бытавога характару. У шасцірадковай мініяцюры "Бяда-гора" чытаем:

**Каля дзвярэй ваенкамата**
**Стаіць зарумзаная Ната.**
**Дзяўчыне шчыра спачувалі:**
**— Бяда? Каханага забралі?**
**— Калі б бяда... Такое гора!..**
**Забралі ўсіх... Ажно пяцёра!..**

Антыалкагольнай тэме прысвечана нізка сатырычных вершаў у раздзеле "Мора па калена". Цікавымі па задуме і творчым вырашэнні з'яўляюцца паэтычныя гумарэскі "Бюст алканаўта", "Хвядот і калючы дрот", "Сухі закон" на Нарачы".

Не праміну́ў У. Ермалаеў з'едліва пальнуць чатырохрадковым зарадам гумару і па сваім жа сабрату-творцу ў вершы "Няўрымслівыя творцы":

**Ачысціў творчыя амбары,**
**Адрыфмаваўся, адлюбіў...**
**Цяпер ён піша мемуары:**
**Дзе, з кім, калі і колькі піў...**

Заключны раздзел зборніка "Радком па кумпалу" складаюць дасціпныя пародыі на вершы беларускіх паэтаў К. Камейшы, М. Лукшы, Р. Барадуліна і іншых. Паэтычныя пародыі нельга чытаць без лагоднай усмешкі і з пахвалой у адрас аўтара-парадыста за вытанчанасць яго назіранняў і ўласных меркаванняў наконт розных хібаў у паэтычных творах аўтараў. Пародыі не трэба цытаваць урыўкамі, іх варта чытаць ад пачатку да канца. Тады кожны чытач упэўніцца, што У. Ермалаеў стварае вершы-пародыі, адметныя сваёй адраснай трапнасцю, дасціпнасцю пры самай высокай культуры зрыфмаваных радкоў.

**Іван СІДАРЭНКА.**

**Калектыў работнікаў рэдакцыі газеты „Зара над Друццю" выказвае глыбокія спачуванні намесніку рэдактара газеты КАРПЕЧАНКУ Міхаілу Аляксеевічу і яго сям'і з выпадку напаткаўшай іх незваротнай страты – смерці маці, свекрыві, бабулі.**

**Калектыў работнікаў мастацкага музея выказвае шчырыя спачуванні КАРПЕЧАНКУ Міхаілу Аляксеевічу, ПАЛОННІК Надзеі Іванаўне і іх дзецям з выпадку напаткаўшай вялікай страты – смерці маці, свекрыві, бабулі.**

**Калектыў работнікаў рэдакцыі праграмы „Радыё Бялынічы" выказвае глыбокае спачуванне намесніку рэдактара раённай газеты „Зара над Друццю" КАРПЕЧАНКУ Міхаілу Аляксеевічу і яго сям'і з выпадку напаткаўшай незваротнай страты – смерці маці, свекрыві, бабулі.**

**Калектыў работнікаў брыгады М. Федарэнчык з ПМК-241 выказвае глыбокае спачуванне МЕЛЬНІКАВАЙ Паліне Іванаўне з выпадку напаткаўшага яе гора — дачаснай смерці брата АНАТОЛЯ.**

**Сям'я Цыбульскага П. В. выказвае глыбокае спачуванне БАТВІНКОВАЙ Таццяне Аляксееўне і яе сям'і з выпадку напаткаўшага гора — смерці бацькі, цесця, дзядулі.**

**Калектыў работнікаў аўтапарка № 7 выказвае глыбокае спачуванне вадзіцелю КОЗЫРАВУ Мікалаю Сяргеевічу і яго сям'і з выпадку напаткаўшага гора — смерці бацькі, свёкра, дзядулі.**

**Педагагічны калектыў і тэхработнікі сярэдняй школы № 2 выказваюць глыбокае спачуванне настаўніцы БАТВІНКОВАЙ Таццяне Аляксееўне з выпадку напаткаўшага яе гора — смерці бацькі.**

**Калектыў работнікаў райсельгасхіміі выказвае глыбокае спачуванне ГУРАНЁВУ Васілю Аляксандравічу з выпадку напаткаўшага яго гора – трагічнай смерці брата.**

## ВІНШУЕМ!

Віншуем дарагога
і любімага татачку,
дзядулю, свата
**Аляксея Пятровіча**
**БАБКОВА** (в. Асавец)
з 60-годдзем!
*Годам ушедшим*
*не вернуться,*
*Быстрее птиц они*
*летят.*
*И не успели оглянуться,*
*А за плечами —*
*шестьдесят.*
*Желаем радости, успехов,*
*Здоровья крепкого вдвойне.*
*Желаем самого*
*простого —*
*Прожить подольше*
*на земле.*
**Сын, дачка, унукі, сваццяя.**

Горача і сардэчна віншуем з 45-годдзем нашу дарагую і любімую жонку і матулю
**Маю Аляксееўну**
**ТРУСАВУ!**
*Мамочка, любимая, родная,*
*Живи подольше, старости*
*не зная.*
*Пусть будут сны спокойны*
*и легки.*
*Тебя мы очень любим,*
*дорогая,*
*Желаем счастья, радости,*
*любви.*
**Муж, дзеці, нявестка**
**і ўнучка.**

Горача і сардэчна віншуем
з 25-годдзем
**Дзмітрыя Уладзіміравіча**
**ТРУСАВА!**
*Двадцать пять за плечами*
*твоими.*
*И в такой неспокойный*
*наш век*
*Мы желаем, чтоб был*
*ты счастливым,*
*Близкий нам и родной человек.*
*Что задумано — пусть*
*сбудется вскоре,*
*Пусть в окно не стучится*
*беда,*
*И обходит судьбу твою горе,*
*Сам люби, будь любимым*
*всегда.*
**Бацькі, сёстры, жонка**
**і дачушка.**

Дарагую мамачку, цешчу,
бабулю, прабабку
**Соф'ю Ануфрыеўну**
**ГУЛЬБЯНКОВУ**
віншуем з днём нараджэння!
*Благодарим за руки*
*золотые,*
*За ласку, доброту твою.*
*Ты в жизни много горя*
*испытала,*
*Но сохранила*
*искренность свою.*
*От нас поклон тебе*
*нижайший,*
*За то, что вырастила нас.*
*И в трудное сегодняшнее*
*время*
*Не забываешь нас ты*
*и сейчас.*
**Любячыя цябе дочкі,**
**зяці, унукі і праўнукі.**

## ДЕВКА ПОСЛЕ СГОВОРА НА УЛИЦУ НЕ ХОДИТ
(приметы досвадебные)

*Нехорошо, когда пара объявит о предстоящем браке в конце одного квартала, а свадьбу играет в начале следующего. Такую пару может постигнуть несчастье.*

*Плохо также, если жених и невеста до свадьбы сфотографируются вместе — их помолвка будет расторгнута.*

*Если девушка подарит возлюбленному носовой платок, то расстанется с ним и рискует никогда не выйти замуж.*

*При обручении молодые должны переломать лавровую ветку надвое. Пока каждый из них сохраняет свою половину, их любовь ничем не омрачится.*

Так здарылася, што нашу сям'ю напаткала бяда — цяжка захварэла мая мамачка Е. Ф. Дударава, якую ў крытычным стане даставілі ў раённую бальніцу. Урачы і медсёстры рэанімацыйнага аддзялення зрабілі ўсё магчымае, каб вярнуць яе да жыцця. А затым, калі стан яе стаў лепшым, маму перавялі ў 2-е тэрапеўтычнае аддзяленне, дзе яе лечачым урачом была Таццяна Мікалаеўна Сакульская — надзвычай чулы, добры і адзыўлівы чалавек. Мне не раз даводзілася бачыць, як яна праводзіць абходы хворых, уважліва прыслухоўваючыся да кожнага іх слова і просьбы, абнадзейваючы не толькі словам, але і цёплай усмешкай.

Хачу падзякаваць нашых дарагіх медыкаў, пажадаць ім моцнага здароўя, шчасця і поспехаў у іх нялёгкай, але такой патрэбнай людзям працы. Нізкі паклон вам, людзі ў белых халатах.

**Н. С. БОРАХАВА, псіхолаг ЦТДН.**

## ГРАФІК
**вывазкі смецця па прыватнаму сектару згодна заключаных дагавароў на 2000 год**
**ПЕРШЫ І ТРЭЦІ ТЫДНІ КОЖНАГА МЕСЯЦА**

**ПАНЯДЗЕЛАК**: вуліцы Саўгасная, Паштовая, Някрасава, Чапаева, Чкалава, завулкі Школьны і Чонаўскі.

**АЎТОРАК**: вуліцы Горкага, Маладзёжная, Першамайская, Я. Купалы, Кветкавая, К. Маркса.

**СЕРАДА**: вуліцы Калініна, Савецкая, Юбілейная, 60 год Кастрычніка, Задруцкая, 70 год Кастрычніка, Зарэчная, Заводская.

**ЧАЦВЕР**: вуліцы Сялянская, І-я Усходняя, Абаронная, 2-я Усходняя, 50-год Кастрычніка, Гагарына, зав. Дальні.

**ПЯТНІЦА**: вуліцы Кірава, Сонечная, 40-год Перамогі, Лугавая, Ленінская, Б.Бірулі, зав. Кірава.

**ДРУГІ І ЧАЦВЁРТЫ ТЫДНІ**

**ПАНЯДЗЕЛАК**: вуліцы Мічурына, Садовая, Лорчанкі, Энгельса, Целешава.

**АЎТОРАК**: вуліцы Пушкіна, Астроўскага, Якубоўскага, Піянерская.

**СЕРАДА**: вуліцы Камуністычная, Лермантава, Чырвонаармейская, Юбілейная.

Вывазка смецця ажыццяўляецца пасля ўплаты адпаведнай сумы.

**Райжылкамунгас.**


**Рэдактар Мікалай ПАДАБЕД**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**213160 г. п. Бялынічы, вул. Савецкая, 27.**
**Газета падпісана ў друк 2. 05. 2000 г. у 11.00**
Рэгістрацыйны № 363.

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.**
**Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**Рэдактара – 51-168, намесніка рэдактара і адказнага сакратара – 51-392, аддзелаў пісьмаў і сацыяльных праблем – 51-739, бухгалтэрыі – 51-541.**
**Газета выходзіць у сераду і суботу**

Газета набрана і звярстана ў рэдакцыйным камп'ютэрным цэнтры, надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70. Аб'ём 1 друк. аркуш. Заказ № 34. Тыраж 3170 Індэкс 64074.